© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**




№ 10 (836) ГОД XVII БЕЛАСТОК 5 САКАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.

## КЛАПОЦЯЧЫСЯ АБ ЧАЛАВЕКУ



Крыстына Маршалэк-Млыньчык — нястомны грамадскі і культурны дзеяч Беласточчыны. Вядомы асабліва з багатай дзейнасці ў жаночым асяроддзі і ў культуры. Была дзве кадэнцыі паслом у Сейм з Беласточчыны. У абедзвюх кадэнцыях працавала ў сеймавых камісіях працы і сацыяльных спраў (намеснікам старшыні), культуры і мастацтва (вяла падкамісію прэсы і выдавецтваў). Яна ж старшыня Беластоцкага таварыства культуры, галоўны рэдактар часопіса «Кантрасты».

Крыстына Маршалэк-Млыньчык знаходзіцца на спіску кандыдатаў у новы Сейм, які выбярэм 19 сакавіка 1972 года.

Рэдакцыя папрасіла Крыстыну Маршалэк-Млыньчык сказаць свае галоўныя думкі і імкненні, назваць справы, якімі яна жыве, над якімі працуе і якія хацела б узняць у Сейме новай VI кадэнцыі.

### ЖАНОЧАЕ ПЫТАННЕ

Жанчын у нашым ваяводстве больш 50 працэнтаў. Таму іх справы вельмі істотныя для далейшага развіцця ваяводства. Іх роля ў жыцці цесна звязана з грамадска - гаспадарчым жыццём ваяводства, а таксама з вялікай роляй у жыцці сям'і і выхаванні дзяцей.

Цяпер у нас звыш 41 працэнта працуючых у дзяржаўных установах складаюць жанчыны. Звязана гэта з структурай прамысловасці ваяводства, а таксама і з структурай зарплаты. Прамысловасць у большасці лёгкая і спажывецкая, ніжэйшая зарплата. Справа падрыхтоўкі новых месц працы для жанчыны — адна з найбольш цяжкіх у нас спраў. У даны момант звыш 9-ці тысяч жанчын у ваяводстве шукае працы. У мінулым годзе спецыяльнай пастановай урада далося і нашаму ваяводству магчымасць утварэння 500 дадатковых месц працы для жанчын. Рэалізавана 230 месц. Акрамя гэтага, рыхтаваліся месцы працы на паўэтатах. Але гэта яшчэ не вырашае справы. Трэба шукаць іншых сродкаў. У новай палітычнай атмасферы і гэтая справа мае новы ранг.

Сеймавая камісія працы і сацыяльных спраў мінулай кадэнцыі Сейма многа разоў і сістэматычна займалася справамі працы. Ставіліся яны комплексна, менавіта: адрэгуліраваць сямейныя дадаткі жанчынам, працуючым у цяжкіх умовах, зменшыць эмерытальны ўзрост, стварыць умовы для жанчыны, каб магла больш займацца дзяцьмі: даўжэйшыя мацярынскія водпускі і даўжэйшыя бясплатныя водпускі. Ставілі мы справу і планавага навучання маладых дзяўчат, каб рыхтаваць іх па прафесіях, патрэбных гаспадарцы.

Год часу ўжо існуе спрыяльная атмасфера, каб гэтыя справы сталі як важнейшая грамадская праблема. Пастанова VI з'езду ПАРП звяртае таксама ўвагу на паляпшэнне ўмоў жыцця і працы жанчын: карацейшы тыдзень працы, паступовая ліквідацыя трэцяй змены, шырокае развіццё паслуг, якія аблягчаюць працу жанчыны. У ваяводстве павялі-

*(Працяг на стар. 4).*

## ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## БЕЛАСТОЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

13 лютага г.г. адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Адкрыў канферэнцыю дагэтуляшні старшыня аддзела Іван Стрышко, вёў (узорна) Мікалай Гайдук, гарадскія ўлады прадстаўляла намеснік кіраўніка Аддзела ўнутраных спраў гарадской рады Зофія Кік, прэзідыум ГП БГКТ — Уладзімір Юзвюк.

Беластоцкі гарадскі аддзел, хоць у справаздачным перыядзе (1970—72) працаваў не ў тыповых абставінах (8 месяцаў цягнуўся рамонт памяшкання, у якім і праводзіцца ўся яго асноўная дзейнасць), мае не дрэнныя вынікі. Як мы даведаліся са справаздачнага даклада, які прачытала сакратар аддзела Зофія Стаськевіч, за гэты перыяд у клубе аддзела адбыліся 23 асветныя мерапрыемствы (лекцыі, даклады, гутаркі), 11 аўтарскіх сустрэч з членамі літаб'яднання «Белавежа», прадэманстравана больш 20 савецкіх кінафільмаў, арганізавана 10 акадэмій, 5 студэнцкіх вечарын, 7 сустрэч з моладдзю сярэдніх школ і іх настаўнікамі. Адбыліся таксама тры літаратурныя вечарыны, прысвечаныя творчасці Ф. Багушэвіча, Я. Коласа і М. Багдановіча. Адбываліся таксама навагоднія балі, карнавальныя

*Працяг на стар. 4*



*Квартэт ГА БГКТ у Беластоку (Ірына Ігнацюк, Яўгенія Ігнацюк, Лідзія Праховіч і Лідзія Харытанюк) на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 71».*
*Фота Цаф: Р. Сянько*

## ГЭТА ГОНАР ДЛЯ НАС...

Прасторная завадская зала на другім паверсе старога, відаць, яшчэ даваеннага будынку. Праз малыя вокны пранікае туды мала натуральнага сонечнага святла. Таму тут безупынна гараць лямпы дзённага асвятлення. Цэх называецца цыравальняй. Гэта адно з вытворчых звенняў Беластоцкага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана. Няма тут ні станкоў, ні іншага абсталявання — так характэрнага для завадской атмасферы. У цыравальні самая сучасная тэхніка не заменіць чалавека. Тут трэба вострага зроку, сканцэнтраванай увагі і надзвычай спрытных рук. І таму ў цыравальні адны толькі жанчыны. Разам іх 50.

Сярод іх — яна, *Анна Келч*, якую тут па-сяброўску называюць проста *Аняй*.

— Віншую вас! — гавару. — Як вам вядома, Фронт адзінства народу паставіў вас у кандыдаты на паслоў, якіх мы будзем выбіраць 19 сакавіка.

— Дзякую за віншаванні і шчыра вам прызнаюся, што я не спадзявалася аж такога гонару. Бо як жа, я — простая работніца, звычайная цыравальшчыца — у паслы?! Я што? Толькі старанна працавала і вачэй не адварочвала ад нашых агульных, рабочых спраў. Так ужо было ў мяне ад 1945 года, калі я пачала працаваць у «Сяржана», калі запісалася ў члены Саюза барацьбы маладых. Дык я лічу, што Фронт адзінства народу, прапануючы маю асобу ў кандыдаты на паслоў, гэтым самым уганараваў рабочых, якія цяпер сапраўды маюць рашучы голас ва ўсіх агульнадзяржаўных справах. Вось наша сяброўка, таксама звычайная работніца, член нашай цэхавай партыйнай арганізацыі, Марыя Саўчук была дэлегатам на VI з'езд партыі.

— Дык мяркую, што пастановы VI з'езду ваш рабочы калектыў успрымае тым болей як свае ўласныя.

— Гэта поўнасцю зразумела.

— А вось у гэтых пастановах між іншым гаворыцца і аб тэкстыльнай прамысловасці.

— За працэнтнымі паказчыкамі трэба было б звярнуцца ў нашу дырэкцыю, але ведаю, што мы ўжо для сябе зрабілі, каб палепшыць умовы працы, каб чалавек прыходзіў на фабрыку не толькі дзеля сваіх «дзвюх тысяч». Маем рабочыя сталовыя, дзе ўжо за 12 зл. можна з'есці паўнавартасны і смачны абед, або за 3—4 зл. мясны суп. Жанчыны — а іх у «Сяржана» амаль паўтары тысячы — маюць свае «пакойчыкі жаночай гігіены», у завадской амбулаторыі, побач з іншымі спецыялістамі, прымае таксама гінеколаг. Ужо пару год

*(Працяг на стар. 5).*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# У нацыянальнай камісіі

Нацыянальная камісія Ваяводскага камітэта ПАРП сваё пасяджэнне, якое адбылося 14 лютага 1972 года, прысвяціла задачам нацыянальных таварыстваў у выкананні рашэнняў VI з'езду ПАРП. Пасяджэнне мела расшыраны характар. Апрача пастаянных членаў камісіі на чале са старшынёй тав. З. Дамброўскім і сакратаром тав. С. Зялінскім, прынялі ў ім удзел члены прэзідыумаў праўленняў нацыянальных таварыстваў, што дзейнічаюць на Беласточчыне, прадстаўнікі аддзела ўнутраных спраў Прэзідыума ВРН, ваяводскай бібліятэкі, куратрыі Беластоцкай школьнай акругі, Дома кнігі і іншых арганізацый.

У праграмным дакладзе тав. С. Зялінскі — намеснік кіраўніка адміністрацыйнага аддзела КВ ПАРП — падкрэсліў, што «Працэс аднаўлення, распачаты на VII і VIII пленумах ЦК, і праграма грамадска-эканамічнага развіцця, выпрацаваная VI з'ездам ПАРП, ствараюць рэальныя магчымасці ўдзелу ўсіх працоўных — гаспадароў краіны — у фарміраванні гарманійнага развіцця Радзімы згодна з патрэбамі ўсяго грамадства. Наша будучыня залежыць ад спраўнасці нашых рук і мышлення, ад нашых арганізацыйных уменняў; ад выдайнасці працы і разумнага гаспадарання ў аднолькавай ступені як у кожнай хатняй гаспадарцы, так і ў маштабе ўсяе народнай гаспадаркі».

Згодна з гэтым перад нацыянальнымі таварыствамі паўстаюць вялікія задачы пры здзяйсненні рашэнняў VI з'езду нашай партыі.

Кожны член нацыянальнага таварыства павінен усвядоміць сабе тую элементарную праўду, што яго ўласная будучыня, яго дзяцей і ўсяго народу залежаць ад таго, як сам ён працуе на сваім варштаце працы, колькі ён сам уносіць у агульнаграмадскую скарбонку. Значыць, усе арганізацыі нацыянальных таварystваў павінны прымаць грамадскія абавязацельствы для развіцця гаспадаркі, высокіх ураджаяў, паляпшэння ўмоў працы і ўзняцця на вышэйшы ўзровень культуры жыцця ў сваім асяроддзі. Гэтай справе будзе служыць актыўны ўдзел членаў нацыянальных таварystваў у розных формах павышэння сваіх ведаў і ўменняў для як мага лепшага выканання сваёй работы на прадпрыемстве ці на ўласным палетку зямлі. Усе павінны знаходзіць нявыкарыстаныя дагэтуль рэзервы павелічэння колькасці прамысловых вырабаў і прадуктаў сельскай гаспадаркі. Неабходна і далей усебакова развіваць масавы ўдзел нацыянальных меншасцей у культурным жыцці краіны ў розных формах мастацкай самадзейнасці, у мерапрыемствах, якія арганізуюць дамы культуры, бібліятэкі, грамадскія арганізацыі. Трэба ў большай меры развіваць зацікаўленне людзей да прадаўжання прагрэсіўных традыцый сваёй рэгіянальнай культуры.

У дыскусіі ўдзельнікі пасяджэння выказалі свае меркаванні аб метадах і спосабах здзяйснення пастаўленых перад нацыянальнымі меншасцямі задач. Між іншым, прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў ВРН выказаў меркаванне аб большым выкарыстанні нацыянальнымі таварystвамі да іх асветніцкай дзейнасці сродкаў іншых культурна-асветных устаноў і грамадскіх арганізацый. Дырэктар ваяводскага Дома кнігі тав. А. Пугацэвіч паведаміў аб тым, што ў сувязі з Міжнародным годам кнігі ў красавіку гэтага года ў Беластоку будзе арганізавана спецыяльная выстаўка беларускай кнігі. Выстаўку падрыхтуюць выдавецтвы БССР супольна з польскім Домам кнігі. Працы па падрыхтоўцы гэтага вялікага мерапрыемства ўжо распачаліся.

Камісія абавязала праўленні ўсіх нацыянальных таварystваў да апрацавання для сваіх арганізацый праграмы мерапрыемстваў па выкананню задач, якія вынікаюць з пастаноў VI з'езду ПАРП.

(мг)

## У бібліятэцы

Школьная бібліятэка ў Дубінах налічвае больш 5-ці тысяч кніг. Ёю карыстаюцца таксама настаўнікі гэтай школы. На здымку бачым настаўніц: Тамару Бараду, Вольгу Шклярук і Ядвігу Дударонак, якія зайшлі ў бібліятэку, каб выбраць сабе патрэбную кнігу.

*Фота Я. Цялушэцкі*

было б Белабоцкага залічыць да нашай літаратуры.

Гэта ж самае трэба сказаць і аб большасці драматычных беларускіх твораў з XVIII ст. Так званыя інтэрмедыі былі напісаны, як правіла, у цэнтрах антыбеларускасці — езуіцкіх калегіях. У гэтых школах ставіліся цяжкія драмы рэлігійнага зместу. Іх мэта заключалася ў тым, каб вучні-акцёры прывыкалі да публічных выступленняў, дасканаліліся ў лацінскім красамоўстве, паглыблялі сваю прывязанасць да рэлігіі. У сувязі з тым, што гэтыя драмы былі страшэнна цяжкія, дзякуючы сваёй манатоніі і мярцвячыне латыні, у перапынках між актамі пачалі даваць устаўкі, званыя інтэрмедыямі. Многія з гэтых інтэрмедый былі напісаны на беларускай мове. Чаму? Справа ў тым, што вучнямі езуіцкіх калегій былі часта маладыя выхадцы з беларускіх земляў. Былі яны моцна звязаны з беларускай мовай і народнай псіхалогіяй. Інтэрмедыі мелі выбіць ім з галавы і сэрца рэшткі беларускасці і вясковасці. Інтэрмедыі высмейвалі наіўнасць, прымітывізм беларускага селяніна, кпілі з яго мовы. Зразумела, што не ўсе інтэрмедыі мелі аднолькавы характар. У некаторых з іх выступаюць народныя тыпы ў станоўчым асвятленні. Аднак наогул інтэрмедыі былі напісаны не з пазіцыі любві да беларускасці, з пазіцыі варожасці да яе. І гэта менавіта акрэсліла іх характар. Да найбольш вядомых інтэрмедый XVIII ст. трэба аднесці: «Селянін на споведзі», «Селянін у касцёле», «Селянін і вучань», «Селянін і студэнт». У некалькіх выпадках інтэрмедыі перарадзіліся ў поўнавымерныя п'есы. Адносіцца гэта перш за ўсё да «Камедыі» Каетана Марашэўскага, які быў выкладчыкам Забельскай гімназіі (Віцебшчына). «Камедыя» была напісана ў 1787 годзе. Галоўныя яе героі — беларускі «хлоп», «жыд» і «д'ябал».

Як у інтэрмедыях, так і ў «Камедыі» тыпы герояў прадстаўлены шаблонна. Маем тут дачыненне з героямі — сімваламі наіўнасці, хітрасці, зла. У гэтым тыпе творчасці не было праўды аб рэчаіснасці, не былі яны звязаны з беларускім жыццём, бо і іх аўтары ў большасці выпадкаў былі чужымі гэтаму жыццю.

Нядаўна быў у Польшчы савецкі даследчык Адам Мальдзіс. Шукаў ён у польскіх архівах новых беларускіх твораў з XVIII ст. Знаходкі яго аднак не змяняюць нашага погляду на літаратурную вартасць XVIII ст. Вартасць гэтая можа быць акрэслена толькі адным словам — убоства.

Пачатак на стар. 1




мы не працуем на трэцюю змену ў суботу. Гэта вялікая выгада, асабліва для жанчын.

Рабочыя бачаць і адчуваюць турботу за іх справы і самі працуюць лепш. Да з'езду мы сталі на прадукцыйную вахту, а цяпер прыступілі да вядомай акцыі *«20 мільярдаў»*. Нашае прадпрыемства абавязалася даць дзяржаве і яе грамадзянам звыш плана шмат тысяч метраў ваўняных тканін вартасцю ў 8 мільёнаў зл.

І ўсё гэта пры вельмі цесным памяшканні, у якім працуе нашае прадпрыемства. Трэба вам ведаць, што яно аб'ядноўвае некалькі яшчэ даваенных суконных фабрык, раскінутых па цэлым горадзе, а адзін з яго філіялаў знаходзіцца аж у Міхалове. Таму я і ўсе іншыя рабочыя «Сяржана» маюць адно толькі пажаданне, якое кіруем у адрас цэнтральных улад: не адкладайце ўжо ў бесканечнасць пабудову новых будынкаў для нашага прадпрыемства. Гэта аплоціцца — і нам, і дзяржаве.

Цыравальшчыца Анна Келч вярнулася на сваё месца працы. Яна ж таксама мае «сваю» норму. Насупраць яе сядзіць сяброўка Ірэна Гайбовіч — цыравальшчыца ад 1947 года.

— Гэта гонар для нас, што наша Аня кандыдуе ў паслы. Мы разумеем, што ёй часта прыдзецца адлучацца ад працы, але — калі спатрэбіцца — мы ёй дапаможам.

Так сама мяркуе майстар цыравальні Ядвіга Зенюк, толькі яшчэ дадае:

— Дагэтуляшнія грамадскія абавязкі не перашкодзілі Келчавай быць выдатнай работніцай, дык і пасольства, мяркую, ёй у гэтым не перашкодзіць.

Тут неабходна адзначыць, што Анна Келч шмат год з'яўляецца сакратаром цэхавай партыйнай арганізацыі, спярша была членам гарадскога, а пасля, ужо трэцюю кадэнцыю, — ваяводскага партыйных камітэтаў. Нядаўна, 7 студзеня г.г., даверана ёй было ахрысціць судно «Беластоцкая зямля», якое будавалася аж у балгарскай Варне.

*В. Рудчык*
*Фота Цаф — Р. Сянько*



# Скарыстайма з прыхільных умоў

Народная ўлада нашай краіны няспынна клапоціцца пра матэрыяльнае забеспячэнне і належны ўзровень навучання беларускай мове ў школах. Гэтай справе служаць штогадовыя летнія курсы настаўнікаў беларускай мовы, якія адбываюцца ў Мінску, летнія курсы настаўнікаў беларускай мовы ў Беластоку, добра пастаўленая справа выдавання падручнікаў для навучання беларускай мовы, якое вядзе Дзяржаўнае прадпрыемства школьных выданняў (ПЗВС), забеспячэнне школьных бібліятэк літаратурай на беларускай мове і многія іншыя мерапрыемствы, якія служаць навучанню беларускай мове ў школах.

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ у канцы мінулага года звярнуўся да міністра асветы і вышэйшай адукацыі ПНР з прапановамі аб далейшым удасканальванні выкладання беларускай мовы, яшчэ лепшым забеспячэнні навуковымі дапаможнікамі настаўнікаў і школьнікаў па гэтаму прадмету, а таксама аб неабходнасці падрыхтоўкі новых настаўніцкіх кадраў і павышэння кваліфікацыі працуючых настаўнікаў беларускай мовы.

У адказ на гэтыя прапановы Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі ў сваім лісце ад 24 студзеня г.г. да ГП БГКТ паведамляе, што яно прыняло шэраг рашэнняў і мерапрыемстваў для стварэння як найбольш спрыяючай атмасферы для навучання роднай мове дзяцей беларускай нацыянальнасці і для павышэння ўзроўню выкладання гэтага прадмета ў школах.

Міністэрства паведамляе, што ўжо ў гэтым годзе будзе апрацавана новая праграма па беларускай мове для школ з дадатковай навукай гэтага прадмета. Пасля гэтага ў БССР паедзе ўпаўнаважаная дэлегацыя, якая даведаецца аб магчымасцях набыцця навуковых і метадычных дапаможнікаў для выкладання беларускай мовы і аб іх пастаўках у нашу краіну.

«Міністэрства выказвае меркаванні, — гаворыцца ў лісце, — што для належнага вывучэння дадатковых тэмаў па роднай гісторыі патрэбна апрацаванне дапаможных матэрыялаў і метадычных рэкамендацый для настаўніка. У самым бліжэйшым часе ПЗВС атрымае загад правесці працу па падрыхтоўцы такіх матэрыялаў. Адначасова Міністэрства лічыць, што няма патрэбы выдаваць падручнікі для вучняў, бо тэмы па роднай гісторыі не з'яўляюцца прадметам навучання, а папаўненнем навукі роднай мовы і павінны быць пройдзены на ўроках гэтай мовы».

«Міністэрства, — гаворыцца ў лісце, — арганізуе адну з форм падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы ў 1972 г.»

У спецыяльным сваім даручэнні для куратрыі Беластоцкай школьнай акругі ад 28 студзеня г.г., якое пададзена таксама да ведама ГП БГКТ, Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі абавязвае кіраўнікоў школ «арганізаваць навучанне беларускай мовы як звышабавязковага прадмета ў школе, у якой навукі гэтага прадмета пажадаюць вусна або пісьмова бацькі найменш сямі вучняў».

«Аддзелы асветы ППРН і кіраўнікі школ, — падкрэсліваецца ў даручэнні, — у якіх выкладаецца беларуская мова, абавязаны больш клапаціцца пра поўнае забеспячэнне вучняў падручнікамі па роднай мове, а таксама пра павелічэнне колькасці навуковых дапаможнікаў як шляхам пакупкі, так і вырабам у школе простых экспанатаў, неабходных для вывучэння беларускай мовы».

«У школах, — чытаем далей у даручэнні, — у якіх арганізавана навука беларускай мовы, рэкамендуецца арганізаваць гурткі зацікаўленняў беларускай літаратурай і мовай, а таксама ўзбагачаць беларускай праблематыкай праграму дзейнасці школьных гурткоў Таварыства польска-савецкай дружбы».

Міністэрства патрабуе ад школьных інспектараў павышэння педагагічнага нагляду і кантролю падрыхтоўкі настаўнікаў да вядзення ўрокаў беларускай мовы.

З мэтай упарадкавання арганізацыйных спраў выкладання беларускай мовы і ў сувязі з тым, што ёсць толькі некалькі пачатковых школ з беларускай мовай навучання, Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі ад 1 верасня 1972 года пераўтварае гэтыя пачатковыя школы ў школы з дадатковай навукай беларускай мовы.

У даручэнні гаворыцца, што аб тым, ці дзіця мае вывучаць родную мову, вырашаюць яго бацькі.

У сувязі з гэтым перад усімі членамі нашага таварыства паўстае адказнае заданне выясняць бацькам школьнікаў патрэбу вывучаць сваю родную беларускую мову, знаёміцца з гісторыяй беларускага народа, з багатымі прагрэсіўнымі традыцыямі беларускай культуры. Неабходна, каб усе дзеці беларусаў скарысталі з прыхільных умоў, якія стварыла народная ўлада, для навучання маладога пакалення роднай мове.

*Ігнат Снарскі*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# МУЖЧЫНСКІ ТОСТ У ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ

Хай не падымецца рука
У нас з кілішкам поўным,
Як толькі 8-га сакавіка
Мы пра жанчын не ўспомнім.

Хіба без іх калі было б
У нас закускі ўволю?
Мы паміралі б ад хвароб
На глебе алкаголю.

Ці ж ад авансу ў нас хоць раз
Хапіла б да палучкі?
Калі б не бралі ў рукі нас,
Дык мы дайшлі б да ручкі.

Усё жыццё — не дзень-другі —
Нас абмываюць, кормяць
І прамываюць нам мазгі,
Як трэба, для праформы.

Пускаюць на футбол — прытым
На ўсе выключна гульні,
І мы адкрыць гатовы ім
Завочныя цырульні.

А колькі іншага ўсяго
Наабяцаем родным:
Здароўя не губіць свайго,
Не быць ні дня галодным.

Але як прыйдуць на прыём
(Праблем у іх багата!),
Мы абяцанкі ім даём
Не толькі ў дзень іх свята.

Усё для дома, для сям'і.
І ў будні, і ў нядзелі
Ў чарзе стаяць гатовы мы...
Ў гарэлачным аддзеле.

Ці ж не для нас яны штодзень
Пякуць, гатуюць, смажаць?
А іх святочны працадзень
Яшчэ і болей важыць.

*Яўген Верабей*





*У век аўтамабіля.*



*— Вось табе, мама, падарунак на 8 сакавіка.*



**Галаваломка**



Фігуру папрабуйце нарысаваць адной непарыўнай лініяй, не адрываючы алоўка ад паперы.

Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 13 акружнасцей.

## КАПЯЛЮШ

— Сёння мы з жонкай шукалі капялюш — такі, каб не вельмі дарагі, не абавязкова модны і каб вытрымаў яшчэ некалькі гадоў.

— Не паверу! Такіх жанчын няма на свеце...

— Чаму? Капялюш жа шукалі мне.

## ЧАМУ?

— Скажыце, калі ласка, чаму вы хочаце развесціся?

— Таму, што я жанаты.

*Байка*

## НЕРАЗУМНЫ ЎЧЫНАК

— Я вельмі прыгожая жанчына, — сказала аднойчы Снежная Баба. — Ты, Дзед Мароз, мне не пара.

І прагнала Дзеда Мароза са свайго двара.

Пасля зразумела сваю памылку, але было позна — растала.

*Ул. Улас.*

## СЯРОД ЛЕКТАРАЎ

— Калега, для таго, каб добра гаварыць, трэба мець вялікі запас слоў, а таму неабходна многа чытаць.

— Памыляешся, браце. Мая жонка зусім нічога не чытае, але калі пачне гаварыць, дык супыніць нельга.

## УЗАЕМНАЕ КАХАННЕ

Жонка да мужа:
— Ты мяне дужа кахаеш?
— Так, любая, як і ты мяне.
— Ну, ведаеш...

## 8 САКАВІКА



*У гэты дзень мы павінны на руках жанчын насіць. Будзь здароў.*



## ВЯСЁЛЫ ПРЫМАК

Нядзельны дзень. Мужчыны павыходзілі на вуліцу, стаяць, жартуюць. Неўзабаве да іх далучыўся Марфін зяць, прымак. Мужчыны адразу абступілі яго, пытаюцца:

— Як жывеш, Мікалай, ці кланяўся сёння кату, ці знімаў перад ім шапку?

— Добра жыву, — з усмешкаю адказаў Мікалай, — кату ўчора кланяўся.

— А сёння?..

— Сё-ё-ёння? — перапытаў прымак. — Як прачнуўся, адразу яму лапкі пачысціў, кіпцюры напільнічкам тачыў.

— Навошта? — пытаюцца мужчыны і робяць выгляд, быццам гэта іх вельмі цікавіць.

— Каб цешчы добра спалася, бо як ступіцца ў ката кіпцюры, не будзе мышэй лавіць. Развядуцца яны, пашаткуюць у панчосе цешчыны грошы, тады мне не будзе ад яе жыцця і ноччу.

*З. Бяспалы*

## ПЕРАБЛЫТАЎ

Чатырохгадовы хлопчык, які ішоў з бацькам па вуліцы, заўважыў занадта размаляваных дзяўчат.

— Тата, а іх нехта пабіў?

— Чаму ты, сынок, так думаеш?

— Адкуль жа ў іх сінякі пад вачыма?

## СВЕЧКІ

Вечарам муж і жонка катаюцца на машыне. Нечакана заглох матор.

— Праклятыя свечкі! — бурчыць муж, націскаючы на газ.

— Не дзіва, — глыбокадумна заўважае жонка, — на вуліцы такі вецер.



*Без слоў.*

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

# РАМОНКІ

*Словы Р. Барадуліна*
*Музыка Ул. Журовіча*



Ты рамонкаў белавейкіх
Не зрывай.
У пялёсткаў тайнаў нейкіх
Не пытай.
Мае сэрца так палае у агні.
Я ж з табою — ты мне ў вочы зазірні.

Там ты ўбачыш — хмар прадонне
І блакіт,
Там ты ўчуеш — шчасцем звоняць
Жаўрукі.

Колькі там заранак ясных,
Залатых!
Сонцам ззяеш там нязгасным
Толькі ты.

Пройгрыш: Я ж з табою — ты мне
ў вочы зазірні.

## НЕ БАЧЫЛА

— Прабачце, пані, вы не бачылі часам такога маленькага, тоўстага, непрыгожага чалавека?

— Не, вашага мужа я не бачыла.

## ЧАС АДНОСНЫ

Пасля смерці мужа маладая ўдава горка плача. Сяброўка намагаецца пацешыць яе:

— Не забівайся так, мілая! Супакойся! Глядзі, праз месяц ты зноў адчуеш смак да жыцця.

— Месяц! — кажа ўдава, плачучы яшчэ гасней. — Цэлы месяц! Так доўга!

## ДАРУЧЭННЕ

Жонка даручыла мужу выкупаць сына. Бацька, горды даручэннем, узяўся за справу і спытаў хлопчыка, які весела барахтаўся ў ванне:

— Ну, як, сынок, я гэта раблю не горш мамы?

— Вядома, тата. Толькі мама, перад тым, як пасадзіць мяне ў ванну, знімае з мяне шкарпэткі і боты.

## ЦІ МНОГА ПАПЯРОС?

Хлапец праважае дзяўчыну. Дайшлі да яе дому, ён і кажа:

Закуру ды пайду!

Пакурыў. Памаўчаў і зноў:

— Закуру ды пайду!

І так некалькі разоў.

Дзяўчына яму і кажа:

— А ў цябе яшчэ многа папярос?



*Усім вядомая сітуацыя:*
*— Выбачайце, я крыху спазніўся.*

# Курёзы

## ПЛАТНЫЯ КУРСЫ ДЛЯ МУЖЧЫН

Як сцвярджае англійскі псіхолаг Роджэр Грэй, жыццё сярэднестатыстычнага мужчыны карацей за жыццё сярэднестатыстычнай жанчыны па той простай прычыне, што мужчыны падаўляюць у сабе свае пачуцці і не плачуць так часта, як жанчыны. Клапоцячыся аб працягу жыцця прадстаўнікоў моцнага полу, ён арганізаваў спецыяльныя платныя курсы, на якіх мужчыны вучацца плакаць.



## ЗАМЕСТ ВІНШАВАННЯ

У горадзе Лідс (Англія) былі праведзены незвычайныя спаборніцтвы сярод хатніх гаспадынь — кіданне качалкі. Перамагла з вялікай перавагай місіс Роуз Дартмур — яе снарад праляцеў 27 м. Аднак пасля паведамлення ў газеце аб дасягненнях хатняй гаспадыні, куды большую адлегласць праляцелі шматлікія тэлеграмы, адрасаваныя яе мужу. Ва ўсіх іх аўтары замест віншавання выказвалі спачуванне містэру Дартмуру.

## РЭКОРД

Парыжская машыністка Ніколь Убер атрымала дыплом чэмпіёнкі свету. Ніколь друкуе з хуткасцю 260 слоў у мінуту. «Я змагла б пісаць з хуткасцю 300 слоў у мінуту, але ніхто не зможа так хутка дыктаваць!» — заявіла Ніколь.



*Яна так старанна і доўга ўтойвала свой узрост, што, нарэшце, сапраўды не магла ўспомніць, колькі ёй год.*

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020